ISBN 978-9955-12-804-5 (ONLINE)
ISBN 978-9955-12-803-8



VYTAUTAS MAGNUS UNIVERSITY

# Першы Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі

Працоўныя матэрыялы

Том 1 (2012)

# The First International Congress of Belarusian Studies

Working Papers

Volume 1 (2012)

VYTAUTAS MAGNUS UNIVERSITY PRESS
KAUNAS, LITHUANIA, 2011

UDK 323.2(476)(063)
Fi319

# Першы Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі
Працоўныя матэрыялы
Том 1 (2012)

*Першы Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі адбыўся 23-25 верасня 2011 года ў Коўна (Літва)*









**Стыль-рэдуктура і карэктура**
Вольга Гапеева (беларуская і англійская мова)
Стэфанія Каліноўская (руская мова)
Максім Александровіч (англійская мова)
Томаш Блашчак (польская мова)

**Вёрстка і макет вокладкі**
Дзмітры Ісаеў

**Заснавальнікі і партнёры**
Інстытут палітычных даследаванняў "Палітычная сфера" (Беларусь)
Універсітэт Вітаўта Вялікага (Літва)
Інстытут Вялікага Княства Літоўскага (Літва)

Міжнародны Кансорцыум "ЕўраБеларусь" (Беларусь)
Беларускі інстытут стратэгічных даследаванняў (Беларусь)
Інтэрнэт-часопіс "Новая Эўропа" (Беларусь)
Сайт экспертнай супольнасці "Наше мнение" (Беларусь)
Часопіс "Arche" (Беларусь)
Еўрапейскі Цэнтр па пытаннях меншасцяў (Германія)
Інтэрнэт-выданне "BelarusDigest" (Вялікабрытанія)
Праграма "Лятучы ўніверсітэт" (Беларусь)
Фонд імя Конрада Адэнаўэра (Германія)
Агенцыя гуманітарных тэхналогій/Цэнтр сацыяльных інавацый (Беларусь)
Цэнтр усходняй палітыкі (Літва)

Выданне падрыхтаванае дзякуючы падтрымцы *Фонду ім. Конрада Адэнаўэра*






ISBN 978-9955-12-804-5 (online)
ISBN 978-9955-12-803-8

UDK 323.2(476)(063)
Fi319

The First International Congress of Belarusian Studies
Working Papers
Volume 1 (2012)

*The First International Congress of Belarusian Studies was held on September 23-25, 2011 in Kaunas (Lithuania).*









**Proof-reading**
Volha Hapiejeva (Belarusian and English)
Stefanija Kalinoŭskaja (Russian)
Maksim Alieksandrovič (English)
Tomasz Błaszczyk (Polish)

**Design and Layout**
Dzmitry Isajeŭ

**Founders and Organizers**
*Political Sphere* Institute of Political Studies (Palityčnaja Sfiera) (Belarus)
Vytautas Magnus University (Lithuania)
Institute of the Grand Duchy of Lithuania (Lithuania)

*EuroBelarus* International Consortium (Belarus)
Belarusian Institute for Strategic Studies (Belarus)
*Novaja Eŭropa / New Europe* online magazine (Belarus)
*Našie Mnienije / Our Opinion* Expert Community web-site (Belarus)
*Arche* Journal (Belarus)
The European Centre for Minority Issues (Germany)
*BelarusDigest* online magazine (United Kingdom)
*Flying University* program (Belarus);
Agency of Humanitarian Technologies/ Centre for Social Innovations (Belarus);
*East Politics Centre* public institution (Lithuania)

The volume is published with support of *Konrad Adenauer Stiftung*






ISBN 978-9955-12-804-5 (online)
ISBN 978-9955-12-803-8



# Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі
## International Congress of Belarusian Studies
### Tarptautinis Baltarusijos tyrimų kongresas

Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі быў заснаваны 6 кастрычніка 2010 года ў г. Коўна (Літва) на сустрэчы прадстаўнікоў беларускай і літоўскай акадэмічнай і экспертнай супольнасці.

Кангрэс ініцыяваны як штогадовая сустрэча беларускіх і замежных навукоўцаў, экспертаў, аналітыкаў, прадстаўнікоў грамадскіх і дзяржаўных інстытуцый, якія займаюцца даследаваннем Беларусі.

**Місія Кангрэса** – развіццё супольнасці навукоўцаў, аналітыкаў і экспертаў, а таксама спрыянне больш глыбокаму разуменню Беларусі ў акадэмічным і грамадскім асяродку краіны, рэгіёну і свету.

Кангрэс бачыцца месцам прэзентацыі вынікаў працы навукоўцаў і экспертаў на працягу года. Акрамя гэтага, правядзенне Кангрэса з'яўляецца выдатнай магчымасцю для распрацоўкі новых жыццяздольных даследчых і грамадскіх праектаў, абмену меркаваннямі і ідэямі, усталявання нефармальных кантактаў. Кангрэс дазволіць сістэматызаваць веды пра Беларусь, а таксама заахвоціць практыку ўзаемнага супрацоўніцтва і камунікацыі.

Кангрэс разлічаны на ўдзел шырокага кола спецыялістаў з Беларусі, Еўрапейскага Саюза, Расіі, ЗША, Украіны і іншых краінаў свету.

Праца Кангрэса спалучае традыцыйныя пасяджэнні з арганізацыяй экспертных панэляў і грамадскіх дыскусій па актуальным тэмам беларускай палітыкі, культуры, грамадства, рэгіянальнага і міжнароднага супрацоўніцтва.

The International Congress of Belarusian Studies was founded at the meeting of Belarusian and Lithuanian scholars and experts in October 6, 2010 in Kaunas, Lithuania.

The Congress was initiated as an annual meeting of Belarusian and foreign scholars, experts, analysts and representatives of civil society and government institutions, which are involved in studying Belarus.

**The Congress' mission** is to promote a deeper understanding of Belarus in academic and civil communities of the country, region and world.

The Congress aims to become a place for presentation of outcomes of scholarly and expert activities, produced throughout the year. In addition, the Congress is an excellent opportunity to develop new research and community projects, to exchange views and ideas and to establish informal contacts.

The Congress combines traditional academic activities with expert panels and public discussions on topical issues of Belarusian politics, culture, society, regional and international cooperation.

2010 m. spalio 6 d. Kaune (Lietuva) susirinkę baltarusių ir lietuvių mokslininkai ir ekspertai nutarė surengti tarptautinį Baltarusijos tyrimų kongresą.

Tokie kongresai turėjo tapti kasmetiniais baltarusių ir kitų šalių mokslininkų, ekspertų, analitikų, visuomeninių organizacijų ir valstybinių institucijų atstovų, besidominčių Baltarusija bei atliekančių jos tyrimus, suvažiavimais.

**Kongreso misija** – išvystyti mokslininkų, analitikų ir ekspertų visuomenę, siekti geresnio Baltarusijos supratimo tarp akademinių ir visuomeninių centrų šalyje, regione ir pasaulyje.

Kongresas turėtų tapti mokslininkų ir ekspertų per metus atliktų darbų rezultatų pristatymo vieta. Taipogi kongresas gali būti puikia vieta, kur gimtų nauji tyrimų ar visuomeniniai projektai, būtų keičiamasi idėjomis ar užmezgami nauji neformalūs kontaktai.

Kongreso darbą nutarta organizuoti sukuriant įvairias ekspertų ir diskusijų darbo grupes, kuriose būtų gvildenamos aktualios baltarusiškos politikos, kultūros, visuomenės tyrimų, regioninio ir tarptautinio bendradarbiavimo temos.

Web: http://icbs.lt, http://icbs.palityka.org/
e-mail: icbs@palityka.org
Tel. (BY) + 375 29 673 32 96
Tel. (LT) + 370 68 63 11 46
Fax. + 370 37 20 38 58

# ДЗВЮХЧАСТКАВАЯ ЭКАНОМІКА БЕЛАРУСІ: ФАКТАРЫ ФАРМАВАННЯ І ТРАЕКТОРЫЯ РАЗВІЦЦЯ

**КІРЫЛ ГАЙДУК**

***Анатацыя:*** Працяглая затрымка эканамічных рэформаў у Беларусі прывяла да фармавання дзвюхчасткавай эканомікі, у межах якой менш эфектыўныя прадпрыемствы жывуць часткова за кошт дзяржаўнай дапамогі, якую даюць больш эфектыўныя прадпрыемствы. Гэтая "эканоміка дзвюх рэальнасцяў" стала вынікам стратэгічнага выбару шляху эканамічнага развіцця, зробленага напачатку 1990-х гг. Гэты выбар вызначаўся, апроч іншых фактараў, жаданнем пазбегнуць сацыяльных выдаткаў рэформаў. Аднак з цягам часу макраэканамічныя выдаткі ўтрымання дзвюхчасткавай эканомікі ўзраслі. Аналіз функцыянавання гэтай эканамічнай мадэлі ў доўгатэрміновым перыядзе паказвае, што яна сутыкаецца з шэрагам праблемаў: (i) адставаннем узроўня даходаў і скарачэннем спажывання і (ii) скажэннем інвестыцыйных стымулаў і/або залішнім крэдытаваннем з боку дзяржавы.

***Ключавыя словы:*** дзвюхчасткавая эканоміка, эканамічны рост, Беларусь.

## ECONOMIC DUALISM IN BELARUS: THE CAUSES AND CONSEQUENCES

***Abstract:*** Postponement of reforms in Belarus has resulted in economic dualism. A dual economy consists of two sectors: a sector of less efficient and sheltered enterprises and a sector of more efficient and competitive companies. The government subsidizes the former at the expense of the latter. The Belarusian dual economy is a product of policy choice made in the early 1990s. This choice had been determined, among other factors, by the willingness to avoid painful social costs of transformation. Over time, the macroeconomic costs of maintaining the dual economy have increased. If the dual economy endures over the long run, it is likely (i) to generate lower incomes and consumption, and (ii) to distort investment incentives and/or produce state-induced overinvestment.

***Keywords:*** Dual Economy, Economic Growth, Belarus.

Эканоміка Беларусі часта разглядаецца як тыповы выпадак адкладзеных рэформаў. Маштабная перадача актываў у прыватныя рукі пакуль не адбылася, а ўрад выкарыстоўвае адміністрацыйныя рычагі кіравання эканомікай. Каля дзвюх трацінаў ВУП вырабляюць дзяржаўныя прадпрыемствы, на якіх занятыя каля 66 % працоўных рэсурсаў. Тым не менш, нягледзячы на адсутнасць значных рэформаў, тэмпы эканамічнага росту за 2001–2011 гг. склалі каля 7,4 % штогод[1].

Адметнасцю эканомікі Беларусі ёсць даволі працяглае суіснаванне прыбытковых і стратных прадпрыемстваў. Гэтак, у 2011 г. у прамысловасці каля 9 % прадпрыемстваў былі стратныя, у той час як у сельскай гаспадарцы такіх было амаль 32 %. У 2011 г. сума стратаў прамысловых прадпрыемстваў дасягнула 1,6 % ВУП. Відавочна, што неэфектыўным прадпрыемствам патрэбна дзяржаўная падтрымка. Згодна з ацэнкамі Сусветнага банку (2010 г., 2011 г.) у 2009 г. субсідыі сельскай гаспадаркі склалі ад 4,5% да 8 % ВУП, а прамысловасці – да 8,5 % ВУП.

Спалучэнне прыбытковых і стратных суб’ектаў гаспадарання стварае спецыфічную эканоміку “дзвюх рэальнасцяў”, якая складаецца з сектара субсідаваных дзяржаўных прадпрыемстваў і фірмаў прыватнага сектара, на якія не распаўсюджваюцца дзяржаўныя прэферэнцыі ды якія перыядычна вымушаныя выступаць у ролі донара. Такім чынам, *беларуская эканоміка ёсць дзвюхчасткаваю,* у ёй спалучаюцца сектар неэфектыўных прадпрыемстваў, якія нярэдка выконваюць сацыяльную функцыю захавання занятасці, і сектар канкурэнтных ды эфектыўных кампаній, выручка якіх – яўна ці няяўна – абкладаецца падаткам і трансфармуецца ў субсідыі. Апроч субсідый, прадпрыемствам даюцца падатковыя льготы і льготныя дырэктыўныя крэдыты. У 2009 г. каля паловы крэдытаў у эканоміцы былі дырэктыўнымі (Fitch Ratings, 2010)[2].

Фармаванне дзвюхчасткавай эканомікі звязана са стратэгічным выбарам 1990-х гг. і, як вынік, адкладзенаю мадэрнізацыяй ды звязанай з ёю палітыкай падтрымання (залішняй) занятасці. У сацыяльным плане дзвюхчасткавая эканоміка падмацаваная ўстойлівай арыентацыяй шэрагу “групаў сацыяльнага кантракту ... на дзяржаўны патэрналізм і актыўную рэгуляцыйную ролю дзяржавы” ў цэлым (Силицкий, 2009: 185).

Канцэпцыя “дзвюхчасткавай эканомікі” была выпрацаваная для аналізу сітуацыі ў краінах, што развіваюцца (Boeke, 1953; Lewis, 1954; Fei & Ranis, 1964). У межах фармальных эканамічных мадэляў два сектары суіснуюць без канфліктаў. Гэтак, у класічнай[3] мадэлі Льюіса рост

[1] Тут і далей выкарыстоўваюцца звесткі Белстату, калі не абумоўлена іншае.

[2] Разам з тым, значная іх частка прыпадала на будаўніцтва жытла.

[3] Пабудаванай на перадумовах класічнай, а не неакласічнай эканамічнай тэорыі.

у дзвюхчасткавай эканоміцы можа быць устойлівы і працяглы, пакуль працоўныя рэсурсы з “адсталага” аграрнага сектару перацякаюць у “перадавы” прамысловы сектар.

У малых адкрытых эканоміках паміж сектарамі ўзнікаў канфлікт, у прыватнасці, паміж сектарам прадпрыемстваў, якія працуюць на ўнутраны рынак, і сектарам прадпрыемстваў-экспарцёраў (Aukrust, 1977). Кампаніі, арыентаваныя на ўнутраны рынак, маглі карыстацца абмежаванай канкурэнцыяй і павышаць, напрыклад, заробкі, перакладаючы павялічаныя выдаткі на плечы спажыўцоў. У кампаній-экспарцёраў такой магчымасці не было з прычыны канкурэнцыі на вонкавых рынках. Канфлікт паміж сектарамі, якія працуюць на ўнутраны рынак і сектарамі, якія вырабляюць тавары на экспарт, удавалася вырашаць праз цэнтралізаваныя перамовы наконт заработнай платы (Iversen & Eichengreen, 1999).

У краінах Лацінскай Амерыкі фармаванне дзвюхчасткавай эканомікі звязанае з традыцыйным дамінаваннем сектару прадпрыемстваў-манапалістаў пад кантролем буйных фінансавых групаў. Спробы сацыялістычных урадаў Чылі і Перу ў 1970–1980-я гг. “падцягнуць” прыбыткі больш адсталых прадпрыемстваў і галінаў прывялі да павелічэння вонкавай пазыкі, бо ўнутраныя субсідыі не былі значнымі з прычыны нізкай долі падаткаў у ВУП[4].

Краінам з пераходнай эканомікай у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе (Польшчы, Вугоршчыне і Чэхіі) таксама не ўдалося пазбегнуць фазы “дзвюхчасткавай эканомікі”. Аднак яна была даволі кароткая (з 1990 да 1992–1993 гг.). У гэты перыяд прадпрыемствы яшчэ не прыватызавалі і/або рэструктурызавалі. Напрыклад, у Польшчы яны былі пад кіраваннем Нацыянальных прыватызацыйных фондаў. Фактычна прадпрыемствы заставаліся пад кіраваннем дзяржавы. Менеджары гэтых прадпрыемстваў імкнуліся да атрымання субсідыяў, а дзяржава была зацікаўленая ў тым, каб не даць прадпрыемствам разваліцца і захаваць кошт актываў (Eyal, Szelényi, & Townsley, 1998). Апроч гэтага, адначасовае банкруцтва мноства прадпрыемстваў магло б выклікаць глыбокі эканамічны спад. Падатковыя субсідыі маглі быць праблематычныя, бо новыя, больш эфектыўныя прадпрыемствы атрымлівалі падатковыя льготы, таму падтрыманне ажыццяўлялася праз банкі.

У той час у банкаў і прадпрыемстваў існавалі стымулы “гуляць супраць дзяржавы”. Банкі былі ўпэўненыя, што дзяржава іх падтрымае, нават калі яны выдадуць крэдыты менш эфектыўным пазычальнікам (Gorton & Winton, 1998). Разам з тым, банкам было складана прымаць

[4] У Чылі ў 1971–1972 гг. гэты паказчык склаў 18,2% і 20,2%, у той час як у Перу ў 1987–1988 гг. – 25,9% і 23,5%, адпаведна (Dornbusch & Edwards, 1989).

рашэнні наконт пазыкаў прадпрыемствам, якія не мелі досведу працы ў новых рынкавых умовах. Акрамя таго, постсацыялістычныя ўрады адмовіліся ад правядзення прамысловай палітыкі. Падтрыманне суб'ектаў гаспадарання шмат у чым было непаслядоўнае, бо адсутнічалі ўзгодненыя галіновыя прыярытэты.

Як вынік, банкі пачалі назапашваць дрэнныя пазыкі. Сродкам іх ратавання была рэкапіталізацыя банкаў, якая каштавала розным краінам не менш за некалькі адсоткаў ВУП (Sherif et al., 2003). У гэтай сітуацыі ўзнікала палітычна-эканамічная "праблема вартага даверу абавязацельства". Урадам, рэпутацыя якіх была падмочаная непаслядоўнай палітыкай у мінулым, трэба было сігналізаваць пра тое, што ў будучыні дзяржава не будзе падтрымліваць прадпрыемствы і банкі. Гэтакім сігналам сталася банкаўская прыватызацыя. За кароткі прамежак часу замежныя банкі зрабіліся ўладальнікамі банкаў краінаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

Такім чынам, міжсектарны канфлікт паміж "старымі" і "новымі" формамі эканамічнай дзейнасці ў былых сацыялістычных краінах вырашыўся не ў карпаратысцкім ключы (у межах трохбаковых перамоваў), а з дапамогаю рыначнага дысцыплінацыйнага механізму, а менавіта прыватызацыі нацыянальнага банкаўскага сектара. Разам з тым, у краінах Балтыі – перадусім Латвіі ды Эстоніі – фазы дзвюхчасткавай эканомікі практычна не было. Гэта звязана з тым, што першыя рэфарматары прытрымліваліся "неаліберальнай" ідэалогіі, якая адмаўляе паступовыя рэформы. Апроч таго, гэтыя краіны імкнуліся як мага хутчэй пазбавіцца "савецкай спадчыны".

У былых сацыялістычных краінах узнікненне дзвюхчасткавай эканомікі было найперш звязанае з прамысловай спадчынай. Сацыялістычныя прадпрыемствы часта былі буйныя, на іх працавалі тысячы людзей. Пасля распаду сацыялістычнага блоку, наёмныя працаўнікі сутыкнуліся з нявызначанасцю, звязанаю з прымяненнем назапашаных імі працоўных навыкаў у новых, рынкавых умовах. У Беларусі ўлады "канвертавалі" гэтую нявызначанасць у эканамічную палітыку, падмацаваную антырынкавай рыторыкай.

Што ж адбываецца, калі дзвюхчасткавая эканоміка выжывае? Аналіз сітуацыі ў эканоміцы Беларусі дазваляе адказаць на гэтае пытанне. У прыватнасці, вынікі мадэлявання (Bonatti & Haiduk, 2010)[5] сведчаць пра тое, што ў доўгатэрміновым перыядзе дзвюхчасткавая эканоміка саступае ва ўзроўні даходаў больш развітым краінам. Апроч запаволення канвергенцыі, у такой эканоміцы скажаюцца стымулы да інвеставання, што ў будучыні вядзе да скарачэння тэмпаў эканамічнага росту.

[5] У мадэлі аналізуюцца наступствы выдавання наўпроставых субсідыяў менш эфектыўным прадпрыемствам.

Разам з тым, існуюць інструменты эканамічнай палітыкі, якія дазваляюць дзвюхчасткавай экономіцы расці. Сярод такіх інструментаў асноўную ролю грае дырэктыўнае крэдытаванне. Прыкладам такой палітыкі выступае сучасны Кітай. Можна правесці некалькі паралеляў паміж экономікамі Кітая і Беларусі. Нягледзячы на распаўсюджанае меркаванне, што ў Кітаі вітаецца свабода прадпрымальніцтва, а экономіка адкрыта для вонкавых інвестараў, у 1990-я гг. у гэтай краіне адбыўся паварот да “дзяржаўнага капіталізму”. Калі ў 1980-я гг. эканамічны рост быў дасягнуты за кошт росквіту прадпрымальніцтва, то ў 1990-я гг. гэтую палітыку згарнулі. Прыватныя прадпрыемствы, створаныя ў сельскай мясцовасці ў 1980-я гг., сутыкнуліся з ростам падаткаў, а працоўная сіла мігравала на прамысловыя прадпрыемствы ў гарады (Huang, 2008). Апроч іншага, распаўсюджанай зрабілася палітыка “фінансавай рэпрэсіі”, у межах якой дырэктыўныя крэдыты выдаюцца асобным прадпрыемствам пад нізкія адсоткі (Lardy, 2008).

Вынікам такой палітыкі ёсць інвестыцыйныя перакосы, якія вядуць да запаволення або зніжэння спажывання хатніх гаспадарак. Акрамя таго, банкі назапашваюць дрэнныя пазыкі, што ў будучыні вядзе да запаволення тэмпаў росту інвестыцыяў і скарачэння тэмпаў росту ВУП. Такія асцярогі аналітыкі выказваюць у дачыненні да Кітая (Das, 2012, Зотин, 2012). Вынікі аналітычнага мадэлявання дзвюхчасткавай экономікі, пабудаванай на дырэктыўным крэдытаванні, паказваюць, што эканамічны рост сапраўды магчымы, але за кошт зніжэння спажывання тых, хто ашчаджае: хатніх гаспадарак і/або інвестараў.

Такім чынам, выпадак Беларусі – выпадак адкладзеных рэформаў, якія прывялі да фармавання дзвюхчасткавай экономікі, у межах якой менш эфектыўныя прадпрыемствы жывуць часткова за кошт дзяржаўнай дапамогі, якую даюць больш эфектыўныя прадпрыемствы. Такая эканамічная сістэма ў доўгатэрміновым перыядзе будзе сутыкацца з шэрагам праблемаў: (а) адставаннем узроўню даходаў і скарачэннем спажывання і (б) скажэннем інвестыцыйных стымулаў і залішнім крэдытаваннем з боку дзяржавы.

### *Бібліяграфія*

1. Всемирный банк (2010). Беларусь: Показатели развития промышленности до и в период мирового кризиса, Аналитическая записка № 1, июнь 2010 г. Вашингтон.

2. Всемирный банк (2011). Обзор государственных расходов в Республике Беларусь. Реформирование бюджетно-налоговой сферы

в целях восстановления устойчивого экономического роста , часть 1, август 2011. Вашингтон.

3. Зотин, А. (2012). "Великий тормозной путь", *Коммерсантъ* Деньги, № 14 (871), 09.04.2012.

4. Силицкий, В. (2009). "От общественного договора к общественному диалогу: некоторые соображения о природе и динамике социальной контрактации в современной Беларуси", в К. Гайдук, Е. Ракова, В. Силицкий (ред.), *Социальные контракты в современной Беларуси.* Санкт-Петербург: Невский простор.

5. Aukrust, A. (1977). *Inflation in the Open Economy:* A Norwegian Model. Oslo.

6. Boeke, J. H. (1953). *Economics and Economic Policy of Dual Societies.* Institute of Pacific Relations. New York.

7. Bonatti, L. and Haiduk, K. (2010). "Dualism and Growth in Transition Economies: A Two-Sector Model with Efficient and Subsidized Enterprises", *University of Trento Department of Economics Discussion Papers,* No. 15, URL (consulted 04.06.2011): http://www.unitn.it/files/download/8303 /15_10.bonattihaiduk.pdf

8. Das, S. (2012). "All Feasts Must Come to an End – China's Economic Outlook", *Eurointelligence,* URL (consulted 11.03.2012): http://www.eurointelligence.com/eurointelligence-news/comment/singleview/article/all-feasts-must-come-to-an-end-chinas-economic-outlook.html

9. Dornbusch, R. and Edwards, S. (1989). "The Macroeconomics of Populism in Latin America", *The World Bank Working Paper,* WPS 316, December 1989.

10. Eyal, G., Szelényi, I. and Townsley, E. (1998). *Making Capitalism without Capitalists: Class Formation and Elite Struggles in Post-Communist Central Europe.* London: Verso.

11. Fei, J. S. and Ranis, G. (1964). "A Theory of Economic Development", *American Economic Review,* Vol. 51, No.4, pp. 533–565.

12. Fitch Ratings (2010). Belarusian Banking Sector – Directed Lending: On the Up or On the Way Out? URL (consulted 10.06.2011): http://www.fitchratings.com/creditdesk/reports/report_frame.cfm?rpt_id=529 065

13. Gorton, G. and Winton, A. (1998). "Banking in Transition Economies: Does Efficiency Require Instability?", *Journal of Money, Credit, and Banking, Part 2: Comparative Financial Systems,* Vol. 30, No.3, pp. 621–650.

14. Huang, Y. (2008). *Capitalism with Chinese Characteristics: Entrepreneurship and the State.* Cambridge: Cambridge University Press.

15. Iversen, T. and Eichengreen, B. (1999). "Institutions and Economic Performance: Evidence from the Labor Market", *Oxford Review of Economic Policy,* Vol. 15, No.4, pp. 121–138.

16. Lardy, N. (2008). “Financial Repression in China”, *Peterson Institute Policy Brief,* No. PBO-08, URL (consulted 05.06.2011): http://www.iie.com/publications/pb/pb08-8.pdf

17. Lewis, W. A. (1954). “Economic Development with Unlimited Supplies of Labour”, *The Manchester School,* Vol. 22, No. 2, pp. 139–191.

18. Sherif, K., Borish, M., and Gross, A. (2003). *State-owned Banks in the Transition: Origins, Evolution, and Policy Responses.* Washington, D.C.: The World Bank.

# ЭМІГРАЦЫЯ З БЕЛАРУСІ (1991–2010): СТАТЫСТЫКА, НАПРАМКІ, ПРЫЧЫНЫ

НАТАЛЛЯ ГАРДЗІЕНКА

***Анатацыя:*** Дваццаць гадоў існавання незалежнай Рэспублікі Беларусь адзначаныя актыўнымі міграцыйнымі працэсамі. Статыстыка атрымання беларусамі права на сталае пражыванне ў найбуйнейшых краінах эміграцыі не супадае з афіцыйнымі беларускімі лічбамі і сведчыць пра перыядычную актывізацыю эміграцыі з Беларусі. Асноўнымі кірункамі эміграцыі беларусаў з'яўляюцца: Расія, Ізраіль, Украіна, ЗША, Нямеччына. Прычынамі эміграцыі з Беларусі сталі як эканамічныя, так і палітычныя. Сярод эмігрантаў істотны адсотак спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй. Актывізавалася і нелегальная эміграцыя з Беларусі.

***Ключавыя словы:*** міграцыя, эміграцыя, міграцыйная статыстыка, нелегальная эміграцыя, дыяспара.

## EMIGRATION FROM BELARUS (1991-2010): STATISTICS, TRENDS, CAUSES

***Abstract:*** Twenty years of the independent Republic of Belarus are marked by active migration. Statistics of Belarusians who get permanent residency in major emigration countries does not coincide with the official Belarusian figures, which testifies to a recurrent activation of emigration from Belarus. The main directions of Belarusian emigration are: Russia, Israel, Ukraine, USA, Germany. The causes of emigration from Belarus are both economic and political. There is a significant percentage of professionals with higher education among Belarusian emigrants. Illegal emigration from Belarus has also intensified lately.

***Keywords:*** Migration, Emigration, Migration Statistics, Illegal Emigration, Diaspora.

З'яўленне на еўрапейскай мапе незалежнай Рэспублікі Беларусь адбылося на фоне актыўных эміграцыйных працэсаў, якія запачаткавала яшчэ прыняцце ў СССР спрошчанага "Закону аб выездзе" у 1989 г.

Эканамічныя складанасці і новыя магчымасці эміграцыі справакавалі вялікую хвалю выезду беларусаў у розных кірунках. Так, цягам 1990–1992 гг. у розныя краіны з Беларусі выехалі больш за 282 тысячы чалавек, якія тады скіраваліся збольшага ў Расію, Ізраіль, Украіну, ЗША.

Пасля першых гадоў "эміграцыйнага шоку" колькасць эмігрантаў зменшала. І калі ў 1995 г., паводле афіцыйных звестак, Беларусь пакінулі каля 35 тыс. чалавек, то ў 1999 г., паводле тае ж статыстыкі, толькі крыху болей за 13 тысяч чалавек. Такім чынам, сцвярджаецца, што цягам 1990–1999 гг. Беларусь пакінулі каля 493 тысяч чалавек, прычым большая частка – да 1994 г.

Аднак да беларускай эміграцыйнай статыстыкі, пачынаючы ад другой паловы 1990-х гг., варта ставіцца даволі асцярожна. Па-першае, яна стабільна адлюстроўвае штогадовае змяншэнне ўзроўню эміграцыі, якому складана знайсці адэкватнае тлумачэнне. У Беларусі фактычна няма абмежаванняў на выезд з краіны, а таму працэс эміграцыі залежыць найперш ад эканамічных, а далей і ад палітычных фактараў. Цягам дваццаці гадоў у эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў краіне былі розныя перыяды, якія выклікалі то павелічэнне, то змяншэнне колькасці ахвочых пакінуць яе межы. Менавіта таму няспыннае змяншэнне афіцыйных звестак эміграцыйнай статыстыкі абгрунтаваць немагчыма. Да таго ж, лічбы эміграцыі з Беларусі ў асобныя краіны, апублікаваныя ў беларускіх статыстычных штогодніках, істотна адрозніваюцца ад лічбаў колькасці беларусаў[1], што атрымоўваюць права сталага пражывання ў тых самых краінах, паводле мясцовых звестак.

Так, паводле афіцыйнай версіі, цягам 2000–2009 гг. з Беларусі ў ЗША выехалі 8814 чалавек, звесткі ж амерыканскай статыстыкі за аналагічны перыяд сведчаць пра 23575 беларускіх грамадзян, зарэгістраваных у якасці імігрантаў у гэтай краіне (US Department). Гэтаксама істотна адрозніваецца афіцыйная беларуская статыстыка і статыстыка іміграцыі беларусаў у Германію, Чэхію, Канаду. Так, калі паводле афіцыйных звестак, у Канаду ў 2000–2009 гг. выехала 1012 чалавек, дык паводле канадскай статыстыкі, сюды прыехала 5175 грамадзян Беларусі (Citizenship and Immigration).

Паводле аднаго з даследаванняў міграцыйных працэсаў у Беларусі: *"У перыяд ад 2000 па 2006 гг. колькасць выехалых з тэрыторыі Беларусі эмігрантаў зменшылася да адносна стабільнага ўзроўню 8–10 ты-*

[1] Пад "беларусамі" тут і далей маюцца на ўвазе грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія маюць адпаведныя пашпарты.

*сяч чалавек на год. За час 2000–2006 гг. з Рэспублікі Беларусь выбылі 86536 чалавек"* (Евелькин, 2008: 48). У той жа час, статыстыка краін прыбыцця сцвярджае, што за 2000–2006 гг. з Беларусі на сталае жыхарства прыбылі ў Расію – 40490 чалавек (Федэральная служба), у ЗША – 18696 чалавек (US Department), у Германію – 15890 чалавек (Organisation for Economic Cooperation), у Ізраіль – больш за 6858 чалавек (The Ministry of Immigrant Absorption), у Чэхію – 3687 чалавек (Czech Statistical Office), у Канаду – 3629 чалавек (Citizenship and Immigration), што разам ужо складае больш за 89250 чалавек. І гэта статыстыка толькі па асноўных краінах.

Гэтае і іншыя несупадзенні дазваляюць паставіць пад сумнеў афіцыйную лічбу ў 605902 эмігранты з Беларусі цягам 1990–2009 гг. Можна сцвярджаць, што рэальная колькасць эмігрантаў з незалежнай Беларусі за часы яе існавання значна большая.

Прычым важна адзначыць, што даследчыкі сцвярджаюць пра значнае павелічэнне ад другой паловы 1990-х гадоў не толькі легальнай працоўнай эміграцыі з Беларусі, але і нелегальнай. Нелегальная працоўная міграцыя значна пераўзыходзіць легальную (Загорец, 2000: 78).

Асноўная частка незаконных працоўных эмігрантаў з Беларусі працуюць у Расіі. Іх колькасць ад 10 да 30 тысяч чалавек. Большасць сярод іх – мужчыны 20–40 гадоў, пераважна занятыя на сезонных работах. Значная частка працуе ў будаўніцтве, рамонце кватэр, у сельскай гаспадарцы – меней. Паступова расце колькасць незаконных мігрантаў у сферы паслуг, гандлю, грамадскага харчавання (Казлоў, 2008: 38-39).

Паводле некаторых сведчанняў, колькасць эмігрантаў з Беларусі складае прыкладна 120 тысяч чалавек у год (Казлоў, 2008: 36).

Асноўнымі краінамі эміграцыі беларусаў з'яўляюцца: Расія, Ізраіль, Украіна, ЗША, Германія. Пры гэтым доля Ізраілю паступова зменшылася цягам 1990-х. На пачатку перыяду да 67 % эмігрантаў на Захад скіроўваліся ў Ізраіль. Сёння там ад 60 да 100 тысяч выхадцаў з Беларусі (Кавалёва, 2004: 4).

У 2000–2008 гг. найбольш прывабныя краіны працоўнай эміграцыі беларусаў – ЗША і Расія (разам каля 74 % працоўных эмігрантаў). Далей па папулярнасці ідуць Вялікабрытанія і Германія (Зайцев, 2010: 298).

Даследчыкі адзначаюць, што інтэнсіўны экспарт рабочай сілы з Беларусі адбываецца найперш у памежныя краіны: Польшчу, Расію, Літву, а таксама Германію, Чэхію, Славакію, Ізраіль, арабскія краіны, якія маюць патрэбу ў высокакваліфікаваных рабочых кадрах (Кавалёва, 2004: 4). Працоўная эміграцыя ў 1999–2008 гг. перавышала імпарт працоўнай сілы ў 3,6 разы (Зайцев, 2010: 296).

Паводле сацыялагічных даследаванняў, колькасць ахвочых выехаць на заробкі за мяжу вагаецца ад 15 % да 45 % у залежнасці ад узроставай групы. Сярод моладзі міграцыйныя ўстаноўкі найбольш моцныя. Сацыялагічныя даследаванні сцвярджаюць, што гатовы з'ехаць за мяжу на любых умовах 45 % (ва ўзросце да 18 гадоў), 43 % (18–25 гадоў), 34 % (26–30 гадоў) (Загорец, 2000: 78).

Варта адзначыць, што адмоўнае міграцыйнае сальда склалася сярод працаўнікоў з вышэйшай адукацыяй. Іх больш выязджае, чым прыязджае (Казлоў, 2008: 38).

Каля 300 навукоўцаў і выкладчыкаў ВНУ (палова з якіх дактары і кандыдаты навук) выехалі з Беларусі ў 1991–1995 гг. у ЗША (38 %), Ізраіль (32 %), Расію (10 %), Германію (7 %), Канаду (3 %) (Кавалёва, 2004: 11). Працэс выезду працягваўся і надалей .

Аналагічныя працэсы закранулі творчую інтэлігенцыю, спартоўцаў. У 1993–1997 гг. выехала каля 220 перспектыўных спартоўцаў, каля 100 трэнераў.

Такім чынам, краіну пакідае найбольш прафесійны кантынгент (Кавалёва, 2004: 12). Асабліва актыўна з'язджаюць спецыялісты ў галіне інфармацыйных тэхналогій.

Асноўнымі прычынамі эміграцыі з Беларусі даследчыкі называюць эканамічныя, і нелегальная эміграцыя найчасцей таксама звязана менавіта з імі.

Аднак пасля рэферэндумаў 1995 і 1996 гг. з краіны сталі эміграваць людзі, якія не былі згодныя з палітычнымі зменамі. Сярод гэтых эмігрантаў быў істотны адсотак спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй. Статыстыка атрымання права на сталае пражыванне, прыкладам, у ЗША сведчыць пра пэўную актывізацыю эміграцыі ў гэтую краіну з Беларусі ў сувязі з палітычнымі падзеямі, найперш выбарчымі кампаніямі 2001, 2006 гг.

Пра неэканамічныя падставы выезду з Беларусі ў апошняе дзесяцігоддзе сведчаць таксама звесткі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Паводле статыстыкі Найвышэйшага камісара па справах уцекачоў, па стане на 2010 г. у розных краінах свету статус бежанца атрымалі 5743 беларусы. Найбольш такіх уцекачоў прынялі ЗША і Германія (The UN Refugee Agency).

Прадстаўнікі новай эміграцыі з Беларусі на Захадзе папоўнілі старыя дыяспары, а таксама сталі заснавальнікамі новых грамад. Так, прыкладам, у Канадзе за кошт эмігрантаў канца 1990-х гг. адбылася змена пакаленняў у мясцовай беларускай грамадзе, і цяпер аснову дыяспары тут складаюць "новыя" эмігранты. За кошт новых эмігрантаў ажывілася беларускае жыццё ў Бельгіі, Чэхіі.

На “усходнім” кірунку новыя эмігранты-беларусы ў некаторай ступені далучыліся да працэсу фарміравання новых беларускіх дыяспараў на постсавецкай прасторы. Аднак іх уплыў наўрад ці магчыма лічыць вызначальным, бо асноўную ролю тут адыгралі больш сталыя жыхары.

Найбольшую актыўнасць у дыяспарах праяўляюць, як правіла, беларусы з неэканамічнай эміграцыі.

Такім чынам, цягам апошніх 20 гадоў Беларусь зведала моцную хвалю эміграцыі, выкліканую як эканамічнымі, так і палітычнымі матывамі. Пры гэтым эміграцыя ахапіла высокаадукаваную і кваліфікаваную частку насельніцтва. Улады ў дастатковай ступені не асэнсоўваюць рэальныя тэндэнцыі знешняй міграцыі, праблему нелегальнай эміграцыі, праблему “уцечкі мазгоў” і гэтак далей. Актыўная эміграцыя маладога адукаванага насельніцтва яшчэ больш абвастрае сучасныя праблемы недахопу працоўнай сілы, пагражае назапашваннем негатыўных наступстваў гэтых праблем у будучыні.

***Бібліяграфія***


1. Загорец, И. В. (2000). *Миграции населения и миграционная политика.* Минск: Лучи Софии.

2. Зайцев, А. В. (2010). "Внешняя трудовая миграция населения Республики Беларусь: структура и основные тенденции развития за 1999–2008 гг.", *Социологический альманах.* Вып. 1.

3. Евелькин, Г. М. (ред.). (2008). *Миграция населения Республики Беларусь*. Минск: "Белорусская наука".

4. Кавалёва, Л. А. (2004). *Дзяржаўная міграцыйная палітыка Рэспублікі Беларусь: Метад. Матэрыялы.* Магілёў: МДУ імя А.А. Куляшова.

5. Казлоў, А. С. (2008). “Знешняя міграцыя рабочай сілы ў Рэспубліцы Беларусь”, *Труды БГТУ.* Сер. VII. Экономика и управление. Вып. XVI. Минск.

6. Федэральная служба дзяржаўнай статыстыкі РФ, URL: http://www.gks.ru/bgd/regl/b11_13/IssWWW.exe/Stg/d1/04-13.htm

7. Czech Statistical Office, URL: http://www.czso.cz/eng/redakce.nsf/i/population

8. Citizenship and Immigration Canada, URL: http://www.cic.gc.ca/english/resources/statistics/index.asp

9. Organisation for Economic Co-operation and Development, URL: http://stats.oecd.org/Index.aspx?DatasetCode=MIG

10. The Ministry of Immigrant Absorption, URL: http://www.moia.gov.il/NR/rdonlyres

11. The UN Refugee Agency, URL: http://www.unhcr.org

12. US Department of Homeland Security, URL: http://www.dhs.gov/files/statistics/data/

# ПАРТЫІ І ПАРЛАМЕНЦКІЯ ГРУПЫ Ў БЕЛАРУСКІМ ПАРЛАМЕНЦЕ, 1990-2011

АНДРЭЙ КАЗАКЕВІЧ

***Анатацыя:*** У тэксце разглядаюцца розныя формы праяўлення арганізаванай палітычнай актыўнасці дэпутатаў беларускага парламента з 1990 па 2010 гады. У параўнальнай перспектыве аналізуецца партыйнае прадстаўніцтва, значэнне палітычных і непалітычных парламенцкіх груп. Сабраныя дадзеныя сведчаць пра ўстойлівы заняпад палітычнай ролі парламента і дэпутацкага корпуса.

***Ключавыя словы:*** Парламент, палітычныя партыі, парламенцкія групы, гісторыя беларускага парламента.

# PARTIES AND POLITICAL GROUPS IN BELARUSIAN PARLAMENT, 1990-2011

***Abstract:*** The text presents a study of various forms of organized political activity, carried out by the members of the Belarusian Parliament during the period 1990–2010. Party representation and the significance of political and non-political parliamentary groups are examined in comparative perspective. The findings indicate a steady decline of political role of the Parliament and its members.

***Keywords:*** Parliament, Political Parties, Parliamentary Groups, Belarusian Parliament History.

Дастаткова складана дэталёва акрэсліць рэальны партыйны і палітычны склад Вярхоўнага Савета 1990–1995 гг. на падставе наяўных крыніц і даследаванняў. Адносна падрабязна апісаная толькі дзейнасць фракцыі ды партыі БНФ. Аналітычныя артыкулы пасля першага этапу выбараў фіксавалі такі расклад: 60 дэпутатаў дэмакратычнага блоку, 120 наменклатурных камуністаў, 50 невядомых, 80 – паўторныя выбары (Івашкевіч, 1990). Вынікі ўсяго веснавога цыкла (абраныя каля 80 % дэпутатаў): дэмакратычны блок – 62 дэпутаты, камуністычная наменклатура – 133 (Шпак, 1990). Але гэта не акрэслівае дакладнае прадстаўніцтва. "Блокі", а пазней "плыні" і "клубы" былі дастаткова аморфнымі фармаваннямі са зменлівым складам, шмат якія дэпутаты ўваходзілі ў некалькі груп, не ўсе групы мелі выразны палітычны профіль. Яшчэ складаней вызначыць фармальную партыйнасць дэпутатаў з улікам усіх партыяў, якія ствараліся паміж 1991 і 1995 гг.

У ВС XII склікання ўтварыліся прынамсі восем дэпутацкіх груп (Тележников и др., 1998: 61). Больш падрабязны склад можна пазначыць такім чынам: дэпутацкая група Беларускага народнага фронту "Адраджэнне" (Апазіцыя Беларускага народнага фронту) у розны перыяд налічвала ад 20 да 37 чалавек; дэпутацкая група аграрыяў – каля 75 асоб; "Дэпутацкі дэмакратычны клуб" – 80–100 чалавек; "Дэмакратычныя рэформы" – каля 30 дэпутатаў; "За дэмакратыю і сацыяльны прагрэс" – каля 70 асоб; праўрадавая група "Беларусь" – ад 100 да 150 прадстаўнікоў; група камуністаў – 25 чалавек; "Згода" – каля 20 дэпутатаў. Самая вялікая і ўплывовая дэпутацкая група "Беларусь", якая падтрымлівала ўрад Кебіча, не мела партыйнай асновы. Паводле ўскосных звестак, прыблізная колькасць дэпутатаў, у той ці іншай ступені ангажаваных у дзейнасць фракцыяў з выразным палітычным профілем, складала больш за 2/3 ад агульнага складу, але лічбы патрабуюць удакладнення. Пры гэтым, ужо пачынаючы з першага складу парламента незалежнай Беларусі, назіралася значная дыспрапорцыя паміж палітычнай ангажаванасцю і партыйнасцю, а таксама пазбяганне значнай часткай дэпутатаў дакладнага палітычнага і арганізацыйнага выбару.

Сітуацыя крыху змянілася па выніках выбараў у парламент 1995 г. – першых і апошніх, праведзеных у перыяд уздыму партыйных структур. Гэтыя выбары паказалі значны рост фармальнага партыйнага прадстаўніцтва, але пры гэтым непартыйны сегмент застаўся істотным. З абраных да канца 1995 г. дэпутатаў палітычныя партыі прадстаўлялі 53,8 %, якія ўваходзілі ў шаснаццаць партыйных арганізацый. У параўнанні з суседнімі краінамі 54 % для партый можна лічыць адносна нізкім паказнікам, але гэта максімум у сучаснай гісторыі Беларусі. Толькі чатыры арганізацыі змаглі правесці больш за два дэпутаты

і зрабіліся асноваю для фармавання парламенцкіх груп: фракцыя аграрыяў (34 партыйныя дэпутаты, 47 сябраў фракцыі), камуністаў (44 і 44 адпаведна); "Саюз працы" (12 і 18); "Грамадзянскае дзеянне" (5 і 17). Каля 60 дэпутатаў склалі прапрэзідэнцкую непартыйную фракцыю "Згода".[1] Такім чынам, у палітычныя фракцыі былі ангажаваныя да 93,5 % дэпутацкага корпуса.

**Табліца 1. Дэпутацкія групы (фракцыі) у беларускім парламенце, 1990–2011 гг.**

| | ВС XI 1985–1990 | ВС XII 1990–1995 | ВС XIII 1995–1996 | ПП I 1996–2000 | ПП II 2000–2004 | ПП III 2004–2008 | ПП IV 2008 – дагэтуль |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Дэпутацкія групы (фракцыі), колькасць** | - | 8 | 5 | 0 | 7 | 0 | 0 |
| *з іх:* | | | | | | | |
| **Партыйныя фракцыі** | - | 2 | 4 | 0 | 0 | 0 | 0 |
| **Іншыя палітычныя фракцыі** | - | 4–6 | 1 | 0 | 2–5 | 0 | 0 |
| **Непалітычныя дэпутацкія групы** | - | 0–2 | 0 | 0 | 2–5 | 0 | 0 |
| | | | | | | | |
| **Наяўнасць арганізаванай апазіцыі выканаўчай уладзе** | - | + | + | - | + | - | - |
| **Доля дэпутатаў, ангажаваных у палітычныя групы, %** | | ~70 | 93 | 0 | ~30 | 0 | 0 |
| **Доля дэпутатаў, ангажаваных у групы, %** | | ~70 | 93 | 0 | ~90 | 0 | 0 |

Канстытуцыйны крызіс і роспуск Вярхоўнага Савета напрыканцы 1996 г. былі паваротным пунктам у гэтых працэсах. Станаўленне аўтарытарнага рэжыму адбывалася на выразна беспартыйнай (no-party) аснове. Дэмакратычныя і нацыянальныя арганізацыі выцясняліся за межы афіцыйнай палітыкі, камуністы перажывалі маштабны раскол, тое самае адбывалася з сацыял-дэмакратамі, а дзейнасць Аграрнай партыі была паралізаваная на некалькі гадоў.

[1] "Саюз працы" быў створаны на аснове Партыі народнай згоды і Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, "Грамадзянскае дзеянне" – на аснове Аб'яднанай грамадзянскай партыі (узнікла ў 1995 г. у выніку аб'яднання Грамадзянскай партыі ды Аб'яднанай дэмакратычнай партыі).

Фармальна ў Палату прадстаўнікоў I склікання было прызначана дастаткова шмат партыйных актывістаў, але партыйныя структуры, якія падтрымалі Аляксандра Лукашэнку, практычна ніяк не праявілі сябе ў новай палітычнай сітуацыі. Логіка беспартыйнай аўтарытарнай сістэмы не спрыяла развіццю недзяржаўнай сферы і дастаткова хутка прывяла да заняпаду ўсіх партыйных арганізацыяў. Арганізацыйны і кадравы крызіс распачаўся адразу пасля 1996 г. і быў надзвычай глыбокі, ад партыйнай дзейнасці адышла значная колькасць актывістаў і прыхільнікаў[2]. Калі пазначыць партыйную прыналежнасць дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў I склікання на момант абрання ў 1995 г., то яна выглядае дастаткова высокай, але лічбы, відавочна, не адлюстроўваюць рэальнага стану распаду партыйных структур. Падтрыманне прэзідэнта магло прынесці пэўныя асабістыя выгоды, але не выгоды для структур і супольнасцей.

Тэндэнцыя абмежаванага прадстаўніцтва партый у парламенце замацавалася як спецыфічная рыса беларускай аўтарытарнай сістэмы. У 2000 г. у Палату прадстаўнікоў трапілі толькі пятнаццаць партыйных кандыдатаў, у 2004 г. – дванаццаць, а ў 2008-м – сем (гл. табл. 2).[3]

**Табліца 2. Партыйнае прадстаўніцтва ў беларускім парламенце, 1990–2011 гг.**

| | **ВС XII 1990–1995** | **ВС XIII 1995–1996** | **ПП I 1996–2000** | **ПП II 2000–2004** | **ПП III 2004–2008** | **ПП IV 2008 – дагэтуль** |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **Колькасць партыяў** | ? | 16 | 9** | 6 | 3 | 2 |
| **Доля партыйных кандыдатаў, %** | ? | 53,8 | 42** | 13,6 | 10,9 | 6,4 |
| *з іх:* | | | | | | |
| **Камуністычная партыя Беларусі*, %** | ? | 22 | 20 | 5,5 | 7,3 | 5,5 |
| **Аграрная партыя, %** | ? | 17 | 9,1 | 3,6 | 2,7 | 0,9 |
| **Іншыя, %** | ? | 14,8 | 12,9 | 4,5 | 0,9 | 0 |

* У 1993–1996 гг. Партыя камуністаў Беларуская (да расколу).
** Калі не ўлічваць магчымага выхаду з партыяў цягам 1996 г.

Варта адзначыць, што ў Палаце прадстаўнікоў бачная пэўная партыйная актыўнасць. Гэта не толькі прасоўванне сваіх кандыдатаў на

[2] Глыбокі сістэмны крызіс апазіцыйных арганізацыяў наступіў трохі пазней, галоўным чынам пасля 2000–2001 гг.

[3] Склад дэпутацкага корпуса ПП I–IV вызначаны на падставе: (Национальное собрание…; Палата представителей, 2006; Парламент, 1997)

выбарах, але і рэкрутаванне новых сябраў пасля іх. Перш за ўсё гэта датычыць Камуністычнай партыі Беларусі. Па выніках выбараў у 2000 г. партыя мела шэсць дэпутатаў, але да 2004 г. да яе далучыліся прынамсі трое дэпутатаў, абраных на беспартыйнай аснове: Марыя Худая (1995–2004), Таццяна Голубева (2000 – дагэтуль), Наталля Аўдзеева (2000–2008). Пазней, у 2005 г., Таццяна Голубева ўзначаліла КПБ. Наступная кадэнцыя Палаты прадстаўнікоў (2004–2008) была яшчэ больш плённая: да КПБ далучыліся прынамсі чатыры дэпутаты: Уладзімір Майсюк, Раіса Ціханская, Ігар Карпенка і Раман Корап, якія трапілі ў Палату прадстаўнікоў як беспартыйныя. Для Аграрнай партыі фіксуецца толькі адзін такі выпадак – гэта далучэнне Аляксандра Зінчанкі (1995–2008), абранага ў ПП II у якасці беспартыйнага, але па выніках выбараў 2004 г. ён праходзіў ужо як сябра Аграрнай партыі.

Што датычыцца дэпутацкіх груп (фракцый), то гэтая форма калектыўнай актыўнасці ў парламенце таксама прыйшла ў заняпад. У ПП I фракцыі не ўтвараліся. Крыху больш дынамічная сітуацыя склалася ў ПП II, дзе ўзніклі ажно сем дэпутацкіх груп, але іх арганізацыя была дастаткова спецыфічная. Па-першае, з’явіліся выразна непалітычныя партыйныя групы, хрэстаматыйным прыкладам якіх можна назваць "Сяброў Балгарыі", да гэтай групы можна таксама аднесці "Спрыянне эканамічнаму развіццю". Выразна палітычную праграму агучылі толькі групы "Рэспубліка" і "За саюз Украіны, Беларусі і Расіі", астатнія тры – "Адзінства", "Адзіная Беларусь", "Народны дэпутат" – цяжка класіфікаваць адназначна. Па-другое, большасць дэпутатаў уваходзіла адразу ў некалькі груп, што яшчэ больш размывала палітычны профіль гэтых аб’яднанняў. На гэтым гісторыя фракцый у беларускіх парламенце перарываецца: у ПП III і ПП IV дэпутацкія групы не ўтвараліся.

Такім чынам, з 1990 г. адбылася значная эвалюцыя арганізацыі палітычнай дзейнасці дэпутатаў беларускага парламента. У адносна дэмакратычных умовах пачаўся значны ўздым партыйных структур. Калі палітычная дзейнасць большасці дэпутатаў ВС XII была дастаткова аморфнай, то ў ВС XIII склікання партыі і фракцыі вызначалі ўнутрыпалітычны расклад у парламенце. Пасля ўсталявання аўтарытарнага рэжыму хутка аформілася беспартыйная (no-party) сістэма. Колькасць партый, прадстаўленых у парламенце, упала з шаснаццаці ў 1995 г. да двух па выніках выбараў 2008 г., а партыйнае прадстаўніцтва – з 53,8 % да 6,4 %. Пры гэтым заняпад закрануў не толькі апазіцыйныя партыі, не прадстаўленыя ў парламенце з 1995 г., але і лаяльныя сістэме арганізацыі.

Падобным чынам адбывалася развіццё супольнай дзейнасці дэпутатаў у форме парламенцкіх груп (фракцый). Партыйныя

фракцыі былі прадстаўленых толькі ў ВС XII і ВС XIII, пасля чаго такая форма арганізацыі дэпутатаў знікла. Непартыйныя палітычныя аб'яднанні дэпутатаў гралі істотную ролю ў ВС XII, значна меншую ў ВС XIII склікання, пасля яны хутка знікаюць з палітычнай сцэны. Пэўны ўсплёск такой формы актыўнасці меў месца толькі ў ПП II. Паралельна развіваўся інстытут непалітычных дэпутацкіх груп: яны былі прадстаўленыя ў ВС XII, зніклі ў ВС XIII і зазналі сапраўдны росквіт у ПП II. Але нават гэтая бяспечная форма арганізаванай дзейнасці дэпутатаў хутка згубіла сэнс і звялася да нуля ў ПП III і ПП IV.

Такім чынам, эвалюцыя абсалютна ўсіх форм арганізаванай дзейнасці дэпутатаў – ад партый да палітычных і нават непалітычных парламенцкіх груп – сведчыць пра значнае зніжэнне ўзроўню самаарганізацыі дэпутацкага корпуса, праяваў супольных і тым больш арганізаваных дзеянняў дэпутатаў.

### *Бібліяграфія*

1. Івашкевіч, Віктар (1990). "Заўтра былі выбары". *Свабода,* № 1.

2. Казакевіч, Андрэй (2010). “Беларускі парламент эпохі незалежнасці: эвалюцыя дэпутацкага корпусу”, *Палітычная сфера,* № 15(2), 44–70.

3. Народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь: Дванаццатае скліканне (1992). Мінск: "Беларусь".

4. Национальное собрание Республики Беларусь. Палата представителей (официальный сайт). URL http://house.gov.by.

5. *Палата представителей Национального собрания Республики Беларусь, 1996–2006* (2006). Фотоальбом. Сост. В. В. Ермалович. Минск: БЕЛТА.

6. *Парламент – Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь* (1997). А. А. Малафееў, П. У. Шыпук (рэд.). Мінск: Фонд падтрымкі парламентарыяў.

7. Тележников, В. И., Тихомиров, А. В., Шаврук, И. В., Евменова, Т. Л. (1998). *Представительная демократия в Беларуси. Международные парламентские организации.* Минск: "Рай".

8. Шпак, Алесь (1990). "Пост фактум Post Factum". *Белорусская трибуна,* № 4 (20).

# ТЕХНОЛОГИИ ЭЛЕКТОРАЛЬНОЙ ИНЖЕНЕРИИ В ИЗБИРАТЕЛЬНОЙ СИСТЕМЕ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

АЛЕКСЕЙ КОЛЕСНИКОВ

***Аннотация:*** В тексте анализируются особенности применения технологий электоральной инженерии в избирательной системе Республики Беларусь. В качестве наиболее ярких примеров, являющихся результатом применения таких технологий, приводятся использование мажоритарной электоральной формулы на всех уровнях выборов, значительная роль органов исполнительной власти в процессе формирования избирательных комиссий, строгие ограничения размера избирательных фондов, возможность досрочного голосования, а также ограниченные возможности наблюдателей для осуществления контроля над избирательным процессом. По мнению автора, существование таких норм является ничем другим, как примером манипулирования избирательной системой с целью воспроизведения правящего режима.

***Ключевые слова:*** выборы, избирательная система, избирательная (электоральная) инженерия, избирательные технологии.

## ELECTORAL ENGINEERING TECHNOLOGIES IN THE ELECTORAL SYSTEM OF THE REPUBLIC OF BELARUS

***Abstract:*** The paper analyses the main characteristics of the use of electoral engineering technologies in the electoral system of the Republic of Belarus. The most striking examples of applying such technologies are the use of single-winner voting system at all levels of elections, a significant role of executive authorities in the process of election commissions' formation, tight limitations on the size of campaign funds, the possibility of early voting, as well as limited opportunities for observers to control the electoral procedures. The author argues that the existence of such electoral rules is an example of manipulating the voting system in order to reproduce the regime in Belarus.

***Keywords:*** Elections, Electoral System, Electoral Engineering, Electoral Technologies.

Характерной чертой избирательных систем многих посткоммунистических стран является их нестабильность, проявляющаяся в постоянных изменениях избирательного законодательства. С одной стороны, эта особенность вполне естественна ввиду того, что переходные страны пребывают в процессе поиска оптимальных избирательных процедур, способных обеспечить формирование властных институтов на демократических началах и эффективное функционирование политической системы. Однако, с другой стороны, практика подтверждает, что постоянные трансформации избирательной системы часто преследуют совсем другие цели, прежде всего связанные с удовлетворением интересов правящих элит касательно сохранения господствующего положения в обществе. Данное обстоятельство связано с активным применением в этих станах технологий электоральной (избирательной) инженерии, под которыми подразумевают средства и методы адаптации избирательных процедур к эффективной реализации интересов правящих элит относительно завоевания и/или сохранения ими политической власти (Бебик, 2001: 68).

Эта особенность достаточно чётко прослеживается на примере избирательной системы Республики Беларусь, в условиях которой технологии электоральной инженерии стали важным инструментом воспроизведения утвердившейся модели политического режима.

Анализ действующего Избирательного кодекса Республики Беларусь (Избирательный кодекс...) позволяет определить несколько элементов избирательной системы, существование которых, по нашему мнению, можно трактовать как результат использования электоральной инженерии. Первым таким элементом является применение мажоритарной электоральной формулы на всех уровнях выборов, которая, как показывает опыт многих трансформирующихся стран, часто более, нежели другие избирательные системы, благоприятна к использованию административного ресурса. Это вовсе не означает, что пропорциональная или смешанная формулы являются "панацеей" от традиционной для постсоветского пространства "болезни" административного вмешательства в избирательный процесс. Однако именно в условиях мажоритарной системы применение административного ресурса наиболее упрощено в силу целого ряда факторов, связанных со спецификой переходных обществ, которые в Беларуси к тому же имеют свои особенности.

В этом контексте двадцать лет проведения выборов на постсоветском пространстве чётко подтверждают, что наибольшие шансы быть избранными в одномандатных округах, как правило, имеют:

1) известные должностные лица органов исполнительной власти и местного самоуправления;

